Przesy ka opłacona ryczałtem

Nr 40 (94) Нядзеля, 29-га Лістапада 1925 г. м. Вільня Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
„ „ „ 3 „ 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno; ul. Niemiecka 1 „Hotel Sokołowskiego“ pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стр. —20 гр.
за радок нонпарэля у тэксьце—25 гр.
на апош. стр.—15 гр.

## Запраўдны ратунак.

Цяжкую і грозную часіну перажывае Польская Дзяржава.

Эканамічны крызіс апанаваў увесь край, грамадзянства зьбяднела. І як рэзультат гэтага зьбяднельня наступіў агульны ўпадак маральнасьці, доказам чаго зьяўляюцца вялікія працэсы аб растратах, прысваеньнях, хабарніцтве, крадзежах і рожных іншых машэнствах.

І ў гэты мамэнт, мамэнт цяжкага эканамічнага і маральнага крызісу, насунуўся на Дзяржаву яшчэ і крызіс палітычны.

Пасьля развала ўраду Грабскага, у часе цяжкіх і балезных спробаў тварэньня новага ўраду, неяк адразу ўсім сталася ясным, што вышэйшае народнае прадстаўніцтва краю—Сойм—перажыў сам сябе. Усе зразумелі, што Сойм у яго сучасным складзе зусім няздольны да рэальнай і творчай працы. Поўная няздольнасьць і банкроцтва Сойму сказаліся ў тым, што ён ніяк ня мог знайсьці выхаду з цяжкага палажэньня, у якім апынулася Дзяржава. Сталася ясным, што радыкальныя перамены ў дзяржаўнай праграме ня могуць быць праведзены цяперашнім Соймам. Дзеля гэтага патрэбны новыя людзі, людзі іншых пагладаў.

У мамэнт, калі творыцца „ратункавы“ ўрад, які мае на мэце — фактычнае ратаваньне краю, перад усім патрэбна ўнутраная моц Дзяржавы. Моц-жа гэтая залежыць ад салідарнасьці і згоды *ўсіх грамадзян* краю. У цяжкі мамэнт усе грамадзяне павінны аб'еднацца і пайсьці на поўныя ахвяры, каб ратаваць Дзяржаву.

Нажаль гэтага аб'еднаньня мы ня бачым. І трэба зазначыць, што віна за гэтае падае на самае польскае грамадзянства, бо яно ўвесь час ставіць перашкоды на шляху да гэтага аб'еднаньня. Страшэнная небясьпека, якая пагражае ўсяму краю, яшчэ не ацьверозіла тыя шовіністычныя кругі польскага грамадзянства, якія ў першую чаргу нясуць адказнасьць за цяперашняе цяжкае палажэньне Дзяржавы. У гэтую цяжкую хвіліну ня чуем мы выразнага і праграмовага голасу і польскае дэмократыі.

Нядбальства і сьляпота як панавалі, так і сёньня пануюць у Варшаве. У мінуўшчыне часта здаралася, што ў грозныя мамэнты Варшава заставалася сьляпой. Яна была сьляпой і нядбальнай нават і тагды, калі ламаўся польскі фронт на Бярэзіне, а чырвоныя орды хлынулі на Польшчу, пагражаючы самаму яе істнаваньню.

Тое самае мы бачым і цяпер. Мы бачым сёньня праявы атавістычнага шовінізму і праступнае незразуменьне грознасьці сучаснага мамэнту.

Ніжэй, у карэспандэнцыі з Навагрудку, мы падаем дробны, але вельмі характэрны прыклад праявы гэтага шовінізму,які выражаецца ў байкатаваньні нават зусім лёяльных беларускіх прасьветных арганізацыяў.

Ня лепш стаіць справа і ў польска-ўкраінскіх адносінах. У аглядзе прэсы мы даем мейсца голасу „Дзвіна“, органа паважнай і лёяльнай украінскай арганізацыі, які таксама жаліцца і б'е трывогу.

І вось інстынктыўнае зразуменьне патрэбы аб'еднаньня ўсяго грамадзянства змусіла п. Скшынскага пайсьці на пэўны компроміс і стварыць коаліцыйны ўрад, у якім побач з эндэкамі і абшарнікамі селі радком пэпэзсы і прадстаўнікі сялянства.

Аднак-жа гэтая коаліцыя *выключна польскіх партыяў*, нават бяз удзелу гэткіх значных дэмократычных групіровак, як Клюб Працы і Вызваленьне; коаліцыя пры тварэньні якой зусім запамятавалі аб украінцах і беларусах, якія складаюць адну трэцюю частку ўсяго грамадзянства Рэспублікі, гэткая коаліцыя ня можа лічыцца ўдачным разьвязаньнем пытаньня. Той факт, што ў парлямэнтарна-коаліцыйным урадзе п. Скшынскага няма беларускіх паслоў, нас зусім ня дзівіць, бо з гэтымі няўдачнікамі — даўно ўжо перасталі лічыцца... У гэтым вялікая трагэдыя беларускага народу, але даць тут раду ніяк ня можна, пакуль істнуе цяперашні Сойм.

А вось адсутнасьць у новым урадзе здольных і ўмеркаваных украінскіх парлямэнтарыяў нас вельмі дзівіць і пераконывае, што запраўднай коаліцыі, коаліцыі ўсяго грамадзянства рэспублікі, няма і ў новым урадзе. Коаліцыя“ п. Скшынскага, пры ігнараваньні адной трэцяй часткі грамадзянства краю ня ёсьць праўдзівай коаліцыяй, а дзеля гэтага і праца новага ўраду ня можа даць трывалых пазытыўных рэзультатаў.

Толькі здаровыя, нармальныя і шчырыя адносіны польскага грамадзянства да беларусаў і ўкраінцаў прывядуць самі сабой да праўдзівай коаліцыі, узмацняць Дзяржаву і забясьпечаць яе наперад ад цяжкіх крызісаў.

## Палітычны агляд.

У Бэрліне, Парыжы і Лёндане ідзе гарачая падгатоўка да падпісаньня лёкарнскіх трактатаў, якое вызначана на 1 сьнежня ў Лёндане. Гэтая падгатоўка выражаецца ня простымі фармальнасьцямі, а выпаўненьнем падгатаваўчых умоваў. Працяг часу ад лёкарнскай конфэрэнцыі да падпісаньня гэтых трактатаў, г. зн. ад 16 кастрычніка да 1 сьнежня нямецкая дыпляматыя пастанавіла выкарыстаць дзеля таго, каб шляхам розных спосабаў уплыву на ангельцаў і французаў атрымаць ад іх магчымы болей концэсіяў. І трэба сказаць праўду, што нямецкая дыпляматыя ў гэтым напрамку дабілася вялікага пасьпеху. Ангельцы і французы робяць немцам уступку за ўступкай. Відаць, што ангельцы і французы надта хочуць пагадзіцца з немцамі і дзеля гэтага амаль што зусім ужо не зьнішчожана тая розьніца, якая раней была між Антантай і Нямеччынай, як пераможцамі і пераможанай. Труднае для вырашэньня пытаньне аб абязброеньні Нямеччыны ўжо вырашана. Нямецкая нота па гэтаму пытаньню зусім здаволіла г. наз. „раду паслоў“, якая прадстаўляе інтэрэсы Антанты і цалком загадвае гэтай справай. Адна з умяркаваных парыжскіх газэтаў „Matin“ па поваду абязброеньня Нямеччыны піша, што Францыя павінна ня гэтулькі клапаціцца аб матэрыяльным абязброеньні Нямеччыны, колькі аб маральным. А да гэтага можна дайсьці толькі шляхам устанаўленьня прыяцельскіх адносінаў з ёю. Няма што і казаць аб тым, што гэткі пагляд праводзіцца ў жыцьцё цяперашнім левым урадам Пэнлевэ. Рада паслоў пастанавіла ўжо эвакуаваць 1 сьнежня першую паласу ўдожкі Рэйна з гор. Кёльнам і перадаць праўленьне ёю немцам. А ў двох астаўшыхся, якія будуць эвакуіраваны пасьля, значна будзе зьменена праўленьне на карысьць немцаў. Разышлася навет чутка, што ў раду паслоў, якую ўтварылі 5 дзяржаваў, увойдзе таксама й нямецкі пасол. Усё гэта робіцца дзеля таго, каб нямецкаму ўраду аблягчыць правясьці лёкарнскія трактаты праз рэйхстаг, бо нямецкія нацыяналісты, якія састаўляюць найвялікшую партыю ў рэйхстазе, заявілі, што будуць галасаваць проці іх. Але ў апошні час настрой у Нямеччыне значна зьмяніўся на карысьць згоды з саюзьнікамі. Усе партыі апрача нацыяналістаў і комуністаў выказваюцца за ратыфікацыю рэйнскага пакта. Навет прэзыдэнт нямецкай рэспублікі фэльдмаршал Гіндэнбург, выбраны як кандама нацыяналістамі, выказаўся за падпісаньнем пакта і не згаджаецца з дэмонстрацыйнай тактыкай нацыяналістаў. У сувязі з гэтым сярод нацыяналістаў робіцца навет развал. Але да гэтага, ведама, ня дойдзе. Нямецкай дыпляматыі навет была карысна дэманстрацыя нацыяналістаў. Дзякуючы ёй яны болей вытаргавалі ўступкаў ад саюзьнікаў. Пакт будзе ратыфікаваны рэйхстагам. А калі-б навет і ня быў ратыфікаваны, дык нямецкі урад пастанавіў самастойна падпісаць на падставе констытуцыі. І ад 1 сьнежня Заходняя Эўропа акančальна ўвойдзе ў новую эру.

Усялякая дыктатура, ці то фашысцкая, ці бальшавіцкая, заўсёды жыве палахліва, бачучы абкружанай сябе ворагамі. Дзеля гэтага, каб мець апраўданьне перад сваім краем і заграніцай у карыстаньні тэррорам, яны павінны „адкрываць загаворы“ навет тады, калі гэтых няма. Да гэтага шантажа дайшлі італьянскія фашысты, нядаўна адкрыўшыя неістнаваўшы замах на жыцьцё Муссоліні. Усё згулялі як па нотах. Ліхадзея арыштавалі акурат у пору. Муссоліні атрымаў ад караля і навет некаторых чужаземных дзяржаваў павіншаваньні. А ў краі быў павялічаны тэррор проці опозыцыі. Цікаўна тое, што гэты „замах“ быў адкрыты перад пачаткам працэса забойцаў Матэоті, які меўся паказаць усяму сьвету запраўдны твар фашызма.

Але гішпанскія фашысты шмат горшыя за сваіх італьянскіх калегаў, а дыктатар Прыма-дэ-Рывэра—за Муссоліні, якога ён заўсёды і ўва ўсім капіруе. Дзеля гэтага ў Гішпаніі таксама адкрылі „ваенны замах“ на дырэкторыю. Тамака арыштавалі колькі гэнэралаў, палкоўнікаў і афіцэраў, рабіўшых быццам плян ваеннага перавароту. Рэзультаты гэткія самыя: масавыя арышты і рэпрэсыі, дзеля таго, што ў Гішпаніі шмат больш нездаволеных ваеннай дыктатураў, чым у Італіі. Вайна ў Мароко датуль ня кончылася і няма ведама калі кончыцца. Дзеля таго, што пачуўся пэрыяд дажджоў, ваенныя дзеі устрыманы. Але вясной могуць распачацца ізноў і няма ведама з якім рэзультатам. Французы значную частку войска выклікалі назад з мароканскага фронту і перакінулі ў Сірыю, дзе палажэньне псуецца з кожным днём. Друзаў ня толькі не ўдалося напалохаць бомбардзіроўкай Дамаска, але навет да іх далучыліся яшчэ іншыя арабскія плямёны. Друзы пагражаюць навет Палестыне, якая ёсьць пад мандатам Англіі. Англія надта несупакоіцца паяўленьнем арабскіх паўстанцаў на граніцы Палестыны, дзеля таго, што палестынскія арабы даўно ўжо нездаволены ангельскай палітыкай, карыснай для жыдоў. Арабы нездаволены ўтварэньнем жыдоўскай палестынскай рэспублікі і наездам туды жыдоў. Да 1919 г., гэта знача да утварэньня Лігай Палестынскай жыдоўскай рэспублікі, у Палестыне жыло каля 60.000 жыдоў ды колькі сотак тысячаў арабаў. Цяпер лік жыдоў бязупынна павялічваецца, выціскаючы арабаў. Ведама, якую варожую дэманстрацыю палестынскія арабы зарабілі высокаму камісару Палестыны лёрду Бальфуру, жыду па нацыянальнасьці, узімку, калі ён прыехаў у Палестыну, шмат дзе былі паважныя спатычкі між арабамі і ангельскай кавалерыяй, абараняўшай Бальфура, які вярнуўся з Палестыны ледзь жывым. Цяпер палажэньне ў Сірыі гэтулькі зава-

